


# ДОБРЫ ВЕЧАР

*Добрый вечер*

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ЧЭРВЕНЬ 9 СЕРАДА

№ 106 (541)

Цана 5 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ БЕЛАПАН, РІД, БЕЛІНФАРМ І ЎЛАСНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ»*

### Личный посол Клинтона едет в Минск

**ПОСОЛ Строуб Тэлбот, главный советник президента США по вопросам помощи странам СНГ и личный друг Билла Клинтона с командой авторитетных консультантов прибывает 10 июня в Минск.**

**Как сообщили корреспонденту РИДа из посольства США в Беларуси, господин посол намеревается встретиться с Председателем ВС РБ Станиславом Шушкевичем, премьером Вячеславом Кебичем, министром иностранных дел Петром Кравченко и лидерами белорусского парламента. Перед отъездом из Минска посланник президента Клинтона собирается устроить пресс-конференцию для журналистов.**

### □ КОРОТКО

8 ИЮНЯ начался очередной призыв в Вооруженные Силы Беларуси. В пресс-центре Министерства обороны республики корреспонденту БелаПАН отказались сообщить, каким количеством призывников предполагается пополнить ряды белорусской армии этим летом. Однако совершенно очевидно, что работникам военкоматов придется приложить максимум усилий, чтобы обеспечить успешное проведение призыва — как свидетельствует статистика, число молодых людей, которые отказываются служить в армии, постоянно растет. Так, если в 1988 году, по сведениям, предоставленным корреспонденту БелаПАН в пресс-центре Министерства обороны, «отказников» было всего лишь двое, то в 1992 году их число выросло до двух с половиной тысяч.

* * *

*УРОЖЕНЕЦ Гомельщины, а ныне преуспевающий предприниматель из Сургута Анатолий Силивончик, решил внести свой вклад в проведение I Съезда белорусов мира. В фонд этого исторического мероприятия он перечислил 20 млн. рублей.*

### «НАДЕЖДА ЭКСПРЕСС» —

ТАК НАЗЫВАЕТСЯ ГУМАНИТАРНАЯ ПОМОЩЬ продовольствием, которую в Минске на днях снова стали получать члены Белорусского общества инвалидов (БелОИ). На этот раз сливочным маслом из США по 3 кг на человека.

Следует сказать, что предыдущая гуманитарная помощь для членов БелОИ проводилась год назад и была щедрее — посылка с разнообразными продуктами весила около 18 кг. Да и раздача этой помощи, честно говоря, проходила организованней, легче для получающих ее. Конечно, инвалиды благодарны и за это. А вот организацию раздачи следовало лучше продумать.

**ВИЛЬЯМ ОСТРИНСКИЙ, член Первомайского отделения БелОИ.**

## СТУДЭНЦКІ ПІКЕТ НА ВЯРХОЎНЫ САВЕТ

ІВАН КАХНОВІЧ.

ЯК МЫ ПАВЕДАМЛЯЛІ, учора на пляцы Незалежнасці ля Дома ўрада пачалі пікетаванне студэнты мінскіх вышэйшых навучальных устаноў. Арганізуе гэтую акцыю Задзіночанне беларускіх студэнтаў. Упрыгожыўшы пляц беларускім дзяржаўным сцягам і штандарам Задзіночання — ён уяўляе сабой перакрыжаваныя чырвоныя палосы на белым фоне, — удзельнікі пікета ўздоўж праезнай часткі паставілі плакаты з надпісамі: «Прэч рукі ад беларускай мовы», «Кебіча — у адстаўку» і г.д. Тут жа змешчаны і патрабаванні пікетчыкаў: «1) прызначыць на восень 1993 года рэферэндум аб правядзенні датэрміновых выбараў і роспуску Вярхоўнага Савета, 2) захаваць за беларускай мовай статус адзінай дзяржаўнай мовы і замацаваць такі статус у новай Канстытуцыі». Як бачыце, ніякіх эканамічных патрабаванняў студэнты не вылучалі, растлумачыўшы, што ад гэтых урада і Вярхоўнага Савета больш няма чаго чакаць.

Вядома, цяпер не лепшыя ўмовы для студэнцкіх мерапрыемстваў — пачалася сесія. Таму пікет быў, прама скажам, не шматлікім. Але людзі з усіх бакоў падыходзілі да хлопцаў, выказвалі свае адносіны да іх акцыі, да палітыкі ўрада і парламента. Былі на пляцы і прадстаўнікі Беларускага народнага фронту, страйкама рабочых калектываў горада.

У час перапынку ў рабоце сесіі Вярхоўнага Савета з патрабаваннямі ўдзельнікаў пікета «азнаёміліся» многія дэпутаты. Праўда, падысці да людзей не рызыкнулі і, пабачыўшы, што нішто іх спакою не пагражае, прагуляліся ля помніка правадыру пралетарыята ды й мажна пайшлі зноў засядаць...

Плануецца, што пікет будзе працягвацца не менш трох дзён з дзевяці гадзін раніцы і да вечара.

### □ ВЫСТАВЫ

## ДЛЯ ДОМА, ДЛЯ СЯМ'І

УЛ.ІНФ. «ДВ».

**УЧОРА ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры ўрачыста адкрылася спецыялізаваная міжнародная выстава «Дом, сям'я, здароўе–93».**

Перавагу здаровага ладу жыцця ў час адкрыцця дэманстравалі міс і місіс «Аэробіка-93», якія склалі кампанію прэзідэнту Саюза прадпрымальнікаў У.Карагіну, намесніку старшыні антыманапольнага камітэта Беларусі Б.Конанаву, загадчыку ўпраўлення эканамічных рэформ і новых форм гаспадарання Мінгарвыканкама Р.Мухтасараву, іншым афіцыйным асобам.

На выставе дэманстравалася шмат розных тавараў для дома, сям'і, спорту і адпачынку вытворчасці розных фірм свету, якія прадстаўляюць больш за 60 фірм-прадаўцоў, прадпрыемстваў-вытворцаў. З замежных удзельнікаў трэба адзначыць вядомую рыжскую фірму «Дзінтарс», на стэндзе якой багаты выбар самай разнастайнай парфумы для самага вытанчанага густу.

Значна менш, чым чакалася, на выставе прадстаўлена тавараў для аздараўлення, заняткаў спортам, лекаў і прафілактычных сродкаў. А гэта вельмі перспектыўны сектар эканомікі, калі ўлічыць вялікія сродкі і крэдыты, якія зараз накіраваны на развіццё аховы здароўя на Беларусі.

***

**Адначасова ў Палацы спорту адкрылася выстава прадуктаў харчавання з Германіі. На ёй можна ўбачыць прадукцыю 40 нямецкіх фірм–вытворцаў. Мэта — паказаць тавары, пазнаёміць з імі патэнцыяльных спажыўцоў, завязаць карысныя кантакты. Прадстаўлены вырабы кандытарскай прамысловасці, алкагольныя і безалкагольныя напоі, кансервы і іншае.**

## СЛУЖБА БЕЗОПАСНОСТИ НА НЕМИГЕ

ТАМАРА МАРКИНА.

НОВЫЙ столичный универмаг со звучным именем «Торговый дом на Немиге» стал первым торговым бастионом. Редкий вор решится войти сюда на промысел: рискованно. По этажам супермаркета вышагивают элегантные, спортивного вида мужчины в униформе с радиотелефонами в руках. Покупатели с не меньшим интересом, чем на товары, глазеют на них.

Как появилась первая в белорусской торговле собственная экипированная служба безопасности? Об этом мы попросили рассказать заместителя генерального директора торгового дома Николая Ивановича Нарейко.

— Накануне открытия универмага мы — руководство СП «Роден Минск», которое его основало, — пришли к единодушному мнению: не пользоваться себе в убыток услугами охраны МВД. Проблемы экономии и некоторые другие привели нас к решению подобрать свою службу безопасности. Отбор проводим строгий. Сюда берем бывших офицеров Советской Армии, МВД, КГБ. Заключаем с ними договоры о материальной ответственности. С кадрами нет проблем. И сегодня мы имеем огромную скамейку «запасных игроков», желающих работать в нашей службе безопасности. Количество сотрудников — оптимальное. Зарплата всех устраивает, было бы иначе — к нам бы не шли.

## ЧЕСТЬ ЗАЩИЩЕНА. ОТ ВКУСОВ?

АЛЕСЬ КНЯЗЮК.

**НАРОДНЫЙ СУД Партизанского района Минска признал сведения, опубликованные в статье Ю.Будько «Лебединая песня в стиле «номенклатурный поп», или Прощай, «Славянский базар»!» в газете «Літаратура і мастацтва» за 4 сентября 1992 года, «оскорбляющими честь и достоинство Провалинского Владимира Николаевича» и обязал автора статьи и редакцию газеты принести публичные извинения Провалинскому В.Н. через газету.**

**Следует отметить, этот суд явился беспрецедентным случаем, поскольку предметом рассмотрения стали критические замечания, касающиеся искусствоведения, а именно музыки. О вкусах же, гласит старая истина, не спорят...**

### □ КРИМИНАЛ

## ВОТ ТЕБЕ И «ПЭТЭУШНИК»!

СЕРГЕЙ РАЧИЛА, пресс-центр УВД г.Минска.

ВИДИМО, совершенно напрасно многие сограждане с пренебрежением относятся к системе профтехобучения, считая «пэтэушника» чуть ли не без пяти минут уголовником. А между тем среди этих ребят есть много настоящих талантов. Судите сами.

17-летний Геннадий К. (питомец ПТУ-12) сумел перерисовать 10-рублевый белорусский билет на... «пятитысячник». При этом на месте «зайчика» он довольно неплохо изобразил памятник Победы.

...Находившемуся у Гены в гостях 37-летнему С. настолько понравилось это творение, что он не смог удержаться от соблазна прихватить эту «новинку». Чуть позже С. попытался сбыть подделку 16-летней десятикласснице, на чем и был пойман за руку.

Цепь замкнулась, проводится расследование.

● НА ЗЛОБУ ДНЯ

## ПРИЗРАК ЗАБАСТОВКИ БРОДИТ ПО ЗАВОДАМ...

ИРИНА ЛЕВШИНА, БЕЛАПАН.

7 ИЮНЯ в интервью корреспонденту БелаПАН первый заместитель председателя Федерации профсоюзов Беларуси Николай Рош сообщил, что в настоящее время профсоюзами ведется работа по созыву трехсторонней комиссии с участием представителей правительства, работодателей и профсоюзов, заседание которой намечено на 9-10 июня.

Члены комиссии должны прийти к единому мнению по поводу нового роста цен (с 5 июня) на коммунальные услуги и введения свободных цен на продукты питания. Очередной виток цен, как заявил Н.Рош, представляет собой грубое нарушение Генерального соглашения, заключенного между тремя сторонами, которое, в частности, предусматривает разрыв между доходами населения и ростом цен не более чем на 30 процентов. По словам Н.Роша, если комиссия не придет к единому решению, то не исключено проведение внеочередного пленума ФПБ, который призовет белорусских граждан к решительным действиям, причем вполне возможен призыв к бессрочной забастовке.

Прокомментировал решение Совета Министров о повышении цен и председатель Свободного профсоюза Беларуси Геннадий Быков. Он, в частности, провел аналогии между нынешней ситуацией и той, которая уже была в апреле 1991 года. «Тогда повышение цен привело к мощной волне стачечного движения в Беларуси. Понятно, что второй такой волны правительство и коммунистический Верховный Совет не выдержат. Не случайно решение о либерализации цен на продовольствие было принято накануне завершения сессии Верховного Совета», — сказал Г.Быков.

По сведениям БелаПАН, 7-8 июня на многих предприятиях республики прошли конференции организаций Свободного профсоюза, на которых обсуждался вопрос о проведении забастовок.

8 июня, например, состоялась конференция Свободного профсоюза Минского завода автоматических линий. Поводом для конфликта трудового коллектива с администрацией послужил отказ последней подписать коллективный договор, в котором, в частности, остались несогласованными два пункта: об увеличении заработной платы работникам завода до уровня шести минимальных зарплат, а также о выплате компенсации на питание в заводской столовой в размере двух процентов от минимальной заработной платы (примерно 90 рублей в день). На сегодня средняя заработная плата по заводу составляет 21 тысячу рублей. В случае выполнения администрацией требований профсоюза она должна вырасти до 40 тысяч рублей.

● ПАРТАКТЫЎ

## ЗБС «БАЦЬКАЎШЧЫНА»: БЕЗ В.БЫКАВА

**НАРОДНЫ пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў пакінуў пасаду ганаровага прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». На просьбу нашага карэспандэнта пракаментаваць свае адносіны да З'езда беларусаў Васіль Уладзіміравіч адказаў:**

**— Мае адносіны да З'езда беларусаў замежжа вельмі дадатныя. Я думаю, што яны маюць на гэта права, і яны прыедуць. А рознагалоссі, якія мелі месца, адбыліся, так бы мовіць, па палітычных матывах. Я баюся, што паколькі «Бацькаўшчына» там, на з'ездзе, не гаспадар (яна праявіла ініцыятыву, але ўрэшце туды ўмяшаліся іншыя сілы), гэты з'езд будзе выкарыстаны гэтымі сіламі ў антынацыянальных інтарэсах. І тое будзе вельмі сумна. Але маё меркаванне можа быць і памылковым, можа, якраз і нічога, абыдзецца. Многае залежыць ад удзельнікаў, ад прадстаўнікоў дыяспары, якія з'едуцца сюды, — якую яны зоймуць пазіцыю. Прынамсі, гэта не толькі маё прыватнае меркаванне, але і Беларускага народнага фронту, Беларускай сацыял–дэмакратычнай Грамады.**

**Дададзім, што выдаткаванне ўрадам сродкаў на правядзенне з'езда толькі пацвярджае некаторыя высновы В.Быкава.**

## БНФ: ПАДРЫХТОЎКА ДА КАНФЕРЭНЦЫІ

**ЯК ПАВЕДАМІЎ нашаму карэспандэнту сакратар прэс–цэнтра Беларускага народнага фронту Зміцер Жданюк, днямі адбылося пасяджэнне Управы Сойму БНФ.**

**Як вядома, на III з'ездзе руху паміж лідэрамі апазіцыйных сілаў Беларусі, Летувы і Украіны Зянонам Пазьняком, Вітаўтасам Ландсбергісам і Вячаславам Чарнавілам было дамоўлена аб правядзенні ў сярэдзіне ліпеня ў Мінску навукова–тэарэтычнай канферэнцыі аб сумесным вырашэнні энергетычных праблем краінамі Балтыйска–Чарнаморскага рэгіёна. Гаворка, нагадаем, ідзе пра пабудову нафтавага калектара.**

**На пасяджэнні створаны аргкамітэт па правядзенні гэтай канферэнцыі.**



## ВА ЎЛАСНАЙ ХАЦЕ – У КУЦЕ ПАД ЛАЎКАЙ

*МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ВАЙСКОЎЦАЎ ПРЫНЯЛА ЗАЯВУ.*

У ёй адзначаецца, што ў войску пашыраецца праследаванне патрыятычна настроеных афіцэраў. Некага не задавальняе, што сярод вайскоўцаў ёсць сябры Беларускага згуртавання вайскоўцаў — арганізацыі, якая сярод сваіх статутных задач, акрамя абароны незалежнасці і дэмакратыі, патрыятычнага выхавання, мае і такую, як «забеспячэнне невыкарыстання арміі супраць народа».

Асабліва цкаванне афіцэраў-патрыётаў узмацнілася, калі яны выступілі супраць ваеннага саюза з краінамі Сярэдняй Азіі і Закаўказзя, што ваююць супраць таго, каб крывёю простых беларускіх хлопцаў плаціць за эканамічныя правалы правячай наменклатуры. З войска з грубым парушэннем існуючага заканадаўства, з ганебнай фармулёўкай «За дискредитацию высокого звания офицера» звольнены старшыня Каардынацыйнай рады БЗВ падпалкоўнік Мікалай Статкевіч. Беларусам ў чарговы раз паказалі, дзе іх месца: ва ўласнай хаце — у куце пад лаўкай!

Усе, каму неабыякавыя будучыня нашай краіны, лёс дзяцей, могуць прыйсці 10 чэрвеня на плошчу Незалежнасці, дзе а 17 гадзіне адбудзецца сустрэча з народнымі дэпутатамі Беларусі — сябрамі БЗВ і апазіцыі.

## КАЛЯНДАР

*СЕРАДА, 9 ЧЭРВЕНЯ*
*СОНЦА — 4.39/21.38.*
*Даўжыня дня — 17.00.*
*МЕСЯЦ — апошняя квадра 12 чэрвеня,*
*захад — 9.03.*
*ІМЯНІНЫ*
*Сёння:*
*Праваслаўныя: Івана, Ніла, Ферапонта.*
*Каталіцкія: Ахрамея, Ганны, Пелагеі, Феліцыяна.*
*Заўтра:*
*Праваслаўныя: Ігната, Мікіты, Яўціхія.*
*Каталіцкія: Багумілы, Маргарыты.*
*БОЖАЕ ЦЕЛА*
*(ЦЕЛА Й КРЫВІ ПАНСКАЕ).*
*НАРОДНЫ КАЛЯНДАР:*
*Серада на Граным тыдні — Градабой, дзень аховы ад грому. На Палессі — Серада-русаль, выконвалі абрад здабывання агню.*



● ГРЫМАСЫ РЫНКУ

## ШЫКОЎНАЯ СІВУХА

ТАМАРА МАРКІНА, «ДВ».

УЧОРА ўвечары ў рэдакцыю пазваніла загадчыца аддзялення гігіены харчавання Мінскай гарадской санэпідстанцыі Надзея Раманаўна Астапава.

— Праінфармуйце, калі ласка, сваіх чытачоў, каб не куплялі ў камерцыйным гандлі штофы «Сталічнай» ёмістасцю 1,75 літра. Асаблівыя прыкметы: штоф у выглядзе гладыша з ручкай. Цана 8 тысяч рублёў.

Галоўная небяспека: наяўнасць у гарэлцы сівушнага масла, якая ў 12-15 разоў перавышае дазволеныя нормы, прысутнасць вялікай колькасці метылавага спірту.

Каб правесці экспертызу дадзенага прадукту, у гарадскую санэпідстанцыю звярнуліся дзве прыватныя асобы, што займаюцца гандлем, а таксама прадстаўнікі Гандлёвай палаты. Усе ўзоры трох партый гарэлкі былі забракаваны. Тым не менш, мяркуючы па чутках, якія данеслі мае знаёмыя, — канстатуе Надзея Раманаўна, — гарэлка ў гарадскі камерцыйны гандаль усё ж трапіла. Пэўных адрасоў продажу гэтай прыгожа аформленай атруты гарСЭС усё ж не мае. Так што кантрабандысты і злачынныя гандляры дзейнічаюць пакуль што беспакарана.

Але ж да пары жбан ваду носіць. Сцеражыцеся, ахвотнікі да лёгкіх злачынных грошай. А заадно будзьце ўважлівымі і вы, паважаныя прыхільнікі спіртнога.

● ФОТАЭЦЮД

ДАВАЙЦЕ ПАЗНАЁМІМСЯ. Фота Ю. ЗАХАРАВА.

● ЭТО ФАКТ

## СЕКСА У НАС «НЕ БЫЛО», НО ОН БЫЛ, ЕСТЬ И БУДЕТ...

ИРИНА ЛЕВШИНА, БЕЛАПАН.

**НА ПРОШЛОЙ неделе в Минском сексологическом центре состоялась пресс–конференция по поводу недавней регистрации Минюстом Белорусской сексологической ассоциации (БСА).**

**Ее президент — известный в республике врач–сексопатолог Дмитрий Капустин — сообщил журналистам о том, что хотя проблемы сексологической сферы и находят понимание у отдельных чиновников, единой государственной доктрины по этому поводу в Беларуси не имеется. Хотя, по результатам соцопроса, есть все основания для беспокойства: 8 процентов опрошенных в Минске старшеклассниц мечтают сделать карьеру «путаны», 17 процентов девочек–подростков уже подвергались попыткам изнасилования, три четверти опрошенных считают приобретение в аптеке противозачаточных средств чем–то аморальным и постыдным... За отсутствие элементарной половой культуры в обществе в будущем предстоит расплачиваться нашим детям. По словам Д.Капустина, более чем за 70 лет «советской» жизни в области сексологии не проводилось никаких кардинальных социологических исследований. Отсутствуют какие–либо контакты с западными коллегами, а ведь ими разработан ряд учебных программ, методик для школ, причем все это постоянно совершенствуется. В ближайшие цели БСА входит именно установление контактов с зарубежными специалистами, аналогичными центрами в Европе и Америке.**

**Как считают члены ассоциации, интеллектуальная помощь на данном этапе для них не менее важна, чем финансовая.**

● СПОРТ-ПАНАРАМА «ДВ»

### *АЛІМПІЙСКІ ЗАБЕГ*

ГАРАДСКІ спорткамітэт, прадстаўніцтва Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі ў Мінску прынялі рашэнне аб правядзенні ў фізкультурна-спартыўных арганізацыях горада алімпійскага забегу. Мяркуецца арганізаваць усё ў два этапы. Спачатку забегі на розныя лёгкаатлетычныя дыстанцыі павінны прайсці ў калектывах фізкультуры прадпрыемстваў, арганізацый, навучальных устаноў, дзіцячых і маладзёжных аздараўленчых лагерах і г.д.

А 24 чэрвеня на базе цэнтра Міністэрства адукацыі, што па вуліцы Каліноўскага, 111, адбудзецца агульнагарадское спартыўнае свята. У яго праграме масавыя забегі для ўсіх жадаючых (трэба толькі мець дазвол медыкаў) на дыстанцыях ад 1 да 10 км па ўзроставых групах. Інваліды-калясачнікі змогуць стартаваць на 1 і 3 км. Пераможцы спаборніцтваў будуць узнагароджаны дыпломамі Міжнароднага алімпійскага камітэта, дыпломамі і памятнымі падарункамі НАК Беларусі і гарспорткамітэта. А якое ж свята без музыкі, песень? Таму для ўдзельнікаў і гасцей прадугледжаны канцэртна-спартыўныя мерапрыемствы. Словам, будзе цікава, а пачатак свята ў 15.00.

А пакуль час яшчэ ёсць, раім, і гэта таксама настойліва рэкамендуе гарадскі спорткамітэт, штодзённа трэніравацца, закаляць свой арганізм, праводзіць спаборніцтвы на месцах.

### *ФУТБОЛ*

ЗАЎТРА на першынстве рэспублікі ўжо 32-і тур. Найбольш важныя сустрэчы ў Гродне, дзе «Нёман» прымае «Фандок», і ў Віцебску, дзе КІМ гуляе з дынамаўцамі Брэста. Бо ад іх вынікаў залежыць лёс медалёў. Пакуль жа становішча лідэраў такое:

1. «Дынама» (Мінск) — 51 ачко, 2. КІМ — 42, 3. «Беларусь» — 40, 4. «Фандок» — 39, 5. «Нёман» — 39.

### *ТЭНІС*

МІНЧАНКА Наталля Зверава і амерыканка Джыджы Фернандэс сталі пераможцамі адкрытага чэмпіянату Францыі ў парным разрадзе.

### *ВАЛЕЙБОЛ*

ПЕРАМОГА жаночай зборнай Беларусі ў гасцях над камандай Партугаліі з лікам 3:0 адчыніла дарогу ў фінал чэмпіянату Еўропы. Ён адбудзецца ў Чэхіі з 26 верасня па 2 кастрычніка. Жараб'ёўка ўдзельнікаў пройдзе ў ліпені, калі стануць вядомы ўсе зборныя — фіналісткі.

● ЛЕТНІЯ КЛОПАТЫ

# МУЖЧЫНАМ — ПІВА, ДЗЕЦЯМ — МАРОЖАНАЕ

ТАМАРА МАРКІНА, «ДВ».

**Прыйшоў чэрвень. А разам з ім і праблемы летняй спякоты, якія робяцца прывычнымі. У горадзе не хапае прахаладжальных напіткаў. Упраўленнем Дзяржінспекцыі Галоўнага ўпраўлення эканамічнага кантролю па г.Мінску ў красавіку–маі праведзены шэраг праверак. Імі ўстаноўлена: гандлёвая сетка горада не падрыхтавана належным чынам да лета. І гэта нягледзячы на тое, што адказныя асобы ведалі: дзецца няма куды — прыйдзе сезон прахаладжальнага піцця. Канечне, быў адкрыты шэраг павільёнаў, кіёскаў, існуючыя былі так–сяк падрамантаваны. Але ўсё ж недахопаў у забеспячэнні мінчан келіхам піва і брыкецікам марожанага нямала.**

## Навучы нас, «Пінгвін»

Дзецям не хапае марожанага. Напрыканцы рабочага дня, калі стомленыя мамы-таты кідаюцца ў магазін, дзе спрадвеку гандлявалі марожаным, іх сустракае грозная шыльда: «марожанага няма». І так заўсёды. Хіба скажаш сярдзітым вочкам, што гарадскі холадакамбінат скараціў рэалізацыю марожанага?

А ўсё, кажуць, з-за таго, што ўпраўленне гандлю Мінгарвыканкама зімой стала менш даваць на яго заявак. Кіраўніцтва холадакамбіната, не доўга думаючы, узяло ды і скараціла сваіх работнікаў. Цяпер скардзяцца: не можам за такі кароткі тэрмін павялічыць аб'ём вытворчасці. Няўжо цяжка было зрабіць такі «складаны» прагноз: лета прыйшло — расшырай вытворчасць.

Многія з нас аццанілі малочныя кактэйлі, якімі з застойных часоў гандлявалі нашы кафетэрыі. Але то тут, то там псуецца абсталяванне — сталі прападаць і кактэйлі. І не толькі яны. У магазіне № 36 Першамайскага раёна на працягу двух месяцаў не працуе нізкатэмпературны прылавак, у сувязі з чым наведвальнікі не бачаць тут ні марожанага, ні кактэйляў. Ёсць у магазіне свая аўтацыстэрна для продажу квасу, але ж яна таксама не адрамантавана. Ужо з моманту ўстаноўкі не працуюць ізатэрмічныя ёмістасці ў краме № 6 Партызанскага раёна. Другі год запар яго пакупнікі маглі б папіваць квасок! Ды не. Што кіраўніцтву гандлёвага прадпрыемства інтарэсы жыхароў бліжэйшых мікрараёнаў? Аналагічна думаюць кіраўнікі магазінаў № 1 Партызанскага раёна, № 12 і № 26 Савецкага раёна.

Нават у параўнанні з мінулым годам, калі меркаваць па выніках праверак Дзяржгандальінспекцыі, колькасць кропак па продажы напояў і сокаў скарацілася. І гэта ў той час, калі іх катастрафічна не хапала! Што называецца, дзяржгандаль прыняў неабходныя меры, «паклапаціўся», каб мінчукоў не турбавала смага. Не прапаноўваюць сокі і напоі ў разліў у кафетэрыях магазіна № 39 Партызанскага раёна (з-за адсутнасці шклянак), магазіна № 53 Першамайскага раёна (месца мыйшчыцы посуду — вакантнае). Па розных прычынах у 20 правераных магазінах не працавала 15 міксераў, 7 з іх — у Партызанскім раёне. Так што, шаноўныя, ні марожанага вам, ні сокаў, ні кактэйляў! Эх, павучыцца б нашаму дзяржгандлю ў СП «Белкампексін». Яго гандлёвыя кропкі «Пінгвін» шчыруюць штодзень. І марожанае ў іх ніколі не канчаецца, і працуюць дзяўчаткі весела, з настроем. Павучыцеся, спадары-таварышы. Дрэнна не будзе. Карысць, толькі карысць, і вялікая.

## Мінус аўтаматы з газвадой

Не навіна для мінчан і адсутнасць аўтаматаў газіраванай вады. Калі дзе яны яшчэ стаяць, то карысці ад іх не больш, чым ад леташняга снегу. Каб не ламаць галаву над праблемай манет, прынята прасцейшае рашэнне — дэмантаж. Лёгка праводзіць канверсію ў гандлі: няма манетак — няма аўтамата, няма праблем. А можна было і знайсці выйсце, каб клапаціўся гандаль пра нас, кліентаў, па-людску. Да прыкладу, мог бы дадумацца да таго, каб прадаваць жэтончыкі. Такія, як у метро. Прызвычаіўся ж неяк метрапалітэн да інфляцыі. Гандаль не хоча. Яму лягчэй адправіць пад аўтаген складанейшую металаёмкую канструкцыю, чым прыдбаць малюсенькую манетку.

## Гандлёвы СНІД

Падман, махлярства. Яны нарадзіліся разам з гандлем. Асабліва расквітнелі ў савецкую эпоху, у час перакосу таварна-грашовых зносін. Недаліў — адзін з відаў махлярства — і сёння працягвае працвітаць у гандлі квасам, півам, кактэйлямі. Гэта яшчэ раз пацвердзіла праверка Дзяржгандальінспекцыі. На трэцюю частку недалівалі кактэйль (а сіроп і таго на болей) у магазіне № 4 прадпрыемства «Продсервис» (загадчык Г.Н.Сарока). Тут жа на 60% недакладвалі кількі на бутэрброды. Недалівалі квас у павільёне арэндна-гандлёвага прадпрыемства «Узвышша» (дырэктар Т.М.Туманава), піва — у дыетычнай сталоўцы Кастрычніцкага раёна. Вінаватыя, зразумела, пакараны рублём. Прадавец В.А.Супруновіч («Продсервис») — на 3 тысячы, прадавец В.М.Васіна («Узвышша») — на 1 тысячу рублёў. Усяго было аштрафавана 9 чалавек на агульную суму 18 тысяч рублёў.

А яшчэ наш гандаль не супраць збыць нам, пакупнікам, няякасны тавар. Добра, каб якія шкарпэткі ці чаравічкі, дык тавар другой свежасці, які патрабуе наш страўнік! Падчас праверкі ў шэрагу гандлёвых кропак былі выяўлены менавіта гэтыя хібы.

Забруджаным быў напой «Клубніка» ў магазіне № 8, што належыць Беларускай чыгунцы (вытворчасць АП «Крыніца»), негерметычным аказаўся посуд у піва «Жыгулёўскае», якое прадавалася ў магазіне № 26 гандлёвай фірмы «Фобія» (вытворчасць піўзавода «Беларусь»). 3,8 тысячы дэкалітраў піва забаронена да рэалізацыі на самой «Крыніцы». Знайшліся нейкія плёнкі ў бутэльках. Адна з прычын бруду — на арэндным прадпрыемстве выйшла са строю помпа мыйнай машыны. Акрамя таго, «Крыніца» парушае графік правядзення дэзінфекцый. Адным словам, куды ні кінь — усюды клін. Можа таму і вырашыла «Крыніца» напрыканцы адгрузіць у гандлёвую сетку піва з напалову прайшоўшым тэрмінам прыгоднасці. Гэта таксама ўстанавіла Дзяржгандальінспекцыя.

Не сябруюць з чысцінёй і дэзсродкамі ў магазінах №№ 34, 35 Заводскага райхарчгандлю, павільёнах ад магазіна № 37 гандлёвай фірмы «Спажытак», магазіне № 6 гандлёвай фірмы «Зарына». За выпуск няякаснай прадукцыі дырэктарам «Крыніцы» выданы загад, па якому з вінаватых спагнана 115 тыс. рублёў, 6 чалавек прыцягнуты да матэрыяльнай і дысцыплінарнай адказнасці. Па матэрыялах праверкі вернуты незаконна атрыманыя сродкі ў суме 757 тыс. рублёў. Дзяржгандальінспекцыя спадзяецца, што на іншых прадпрыемствах гандлю будзе наведзены парадак і без яе ўмяшання, і мінчане ўспомняць кантралёраў добрым словам у спякотную часіну.

● АКТУАЛЬНО

# *ЗАВИДУЙТЕ, МЫ — ЖЕНЩИНЫ*

**Проблемы положения женщин обсудили участницы завершившегося в Минске международного семинара «Женщина и процесс развития».**

Участие в минской встрече приняли представители Армении, Беларуси, России, Украины, Казахстана, Таджикистана, Узбекистана, Венгрии, Канады, ряда организаций, центров и комитетов ООН, Совета Европы, СБСЕ, посольств и представительств, аккредитованных в Беларуси.

В течение трех дней в рамках семинара велись дискуссии о проблемах участия женщин в сфере высокой политики и структурах власти, их роли в современной экономике, строительстве семьи, миротворчестве. В принятых на форуме рекомендациях отмечено, что они должны стать руководством к действию для исполнительных и законодательных органов власти многих стран мира, в том числе и государств СНГ.

В итоговых документах семинара подчеркнуто, что в связи с подготовкой к началу четвертой Всемирной женской конференции, которая должна состояться в Пекине в 1995 году, следует ускорить ратификацию конвенции ООН «О ликвидации всех форм дискриминации в отношении женщин» всем государствам, которые ее еще не осуществили.

● ЭКАЛОГІЯ

# НАШ ДВОР

В.ГРЫЦУК, народны дэпутат Першамайскага райсавета г.Мінска.

**Ці мае дачыненне нашая дваровая пляцоўка да аховы навакольнага асяроддзя? Я думаю — мае. Ніхто не будзе спрачацца, што дрэвы — гэта зялёныя лёгкія. Неяк я пачуў, што ў Мінску на кожнага жыхара прыпадае толькі па 140 дрэў, а ў іншых сталіцах СНД — больш за 200. Да таго ж, чамусьці амаль не звяртаюць увагу на траву газонаў. Але ж урачы гавораць, што чым менш травы (больш пяску) у дварах, тым больш дзяцей, хворых на кан'юнктывіт і іншыя хваробы. Я бачу, што спальванне смецця ў дварах таксама не надта рэдкая з'ява. Дым гэтых вогнішчаў (асабліва ў малых дварах) вельмі добра дадае нам вуглекіслаты і часцінак сажы ў нашыя кватэры. Такім чынам, «дробязі» нашага двара непасрэдна ўплываюць на наша здароўе. Хацеў бы нагадаць таксама і пра аўтамашыны, асабліва пра паркоўку ў дварах грузавых аўтамабіляў (у апошні час развіцця бізнесу), а з іх цячэ і масла, і салярка, іхнія рухавікі добра даюць куродыму.**

**Дык вось і думаю, ці могуць жыхары двара выратаваць сваё бліжэйшае навакольнае асяроддзе...**

**Дапамагчы ў гэтай справе — безумоўна. Бо як мурашнік будуюць мурашы з ігліцы, так і вялікая ахова прыроды складаецца з нашых элементарных паводзін. Усе людзі, безумоўна, хочуць жыць у дварах з зялёнай густой траўкай, прыгожымі кветкамі і цяністымі дрэвамі, чыстым паветрам. Толькі для гэтага кожны з нас павінен стрымліваць дзяцей і сябе: «не хадзіць па газонах», не псаваць траву і дрэвы, не паліць смецце і для сваіх аўтамабіляў знаходзіць месца на стаянках. А зараз, на жаль, ніхто не спыніў вар'ятаў, якія зламалі па вул.Русіянава 13 дрэў, ніхто не кажа суседу, што не трэба аўтамабілем знішчаць траву, выгульваць сабак на дзіцячых пляцоўках і г.д. Чым далей, тым болей я пераконваюся, што экалогія Прыроды пачынаецца з экалогіі Душы. Можа, мы ўсё ж успомнім, што ўсе мы Чалавекі, «homo sapiens», і не адзінай каўбасой і «Снікерсам» жывы чалавек...**

● МЕРКАВАННЕ

# ФІНАНСАВЫ НАМОРДНІК НА ГАЛОСНАСЦЬ

МІХАІЛ ГАВАРЭНЬ, «ДВ».

Асабіста ў мяне няма аніякага сумнення наконт таго, што мы ўжо жывём у прававой дзяржаве. Таму што справы, якія раней вырашаліся праз райкам, зараз вырашае суд. Наш родны савецкі народны суд, самы справядлівы ў свеце. Так, я маю на ўвазе тую катэгорыю спраў, дзе закрануты гонар і годнасць пацярпеўшага.

Як было раней? Балюча закранулі ў газеце годнасць ці крыху патрапалі чый гонар... Пацярпеўшы ж зусім цвяроза думаў, што не без падставы. Бо газета была не сама па сабе, а органам паважанай установы. А ў той установе людзі не памыляліся. Хацеў бы я паглядзець на таго дзівака, які б у змрочныя часы застою ўздумаў судзіцца з органам ЦК. Дзе, у якой псіхушцы давялося б шукаць яго сляды?

Сёння суды літаральна завалены справамі па абароне гонару і годнасці грамадзян ад сродкаў масавай інфармацыі. А вы кажаце, што дзяржава наша не прававая...

Прычым, што цікава, такія нематэрыяльныя катэгорыі, як гонар і годнасць, маюць дакладны матэрыяльны эквівалент у грашовых адзінках. Гэта ж які трэба мець маленькі гонар, каб адзін-два радкі ў газеце нанеслі яму такі вялікі ўрон, ацэнены пацярпеўшым у паўмільёна? А калі б надрукавалі цэлы артыкул? Што, напрач знішчылі б гонар у чалавека? А можа і знішчаць там няма чаго? Смешна, але пацярпеўшы сам ацэньвае сваю годнасць. Правільнасць ацэнкі вызначае суд. Можна падумаць, як толькі сума будзе выплачана — годнасць адразу ж адновіцца.

Тонкая гэта справа — маральная шкода. Асабліва калі аніякіх праяў яе ісцец прад'явіць не можа: як працаваў на пасадзе да публікацыі, так на ёй і працуе. І нават пайшоў на павышэнне або атрымаў прэмію. Словам — служба ідзе як след, без нечаканасцей, без непрыемных наступстваў.

А бяссонныя ночы, скосыя позіркі саслужыўцаў, папрокі радні? Чым іх кампенсаваць, спытаецеся вы.

Э, кіньце! Як кажа жывы класік сатыры: «Не веру!». Ніводзін ісцец яшчэ не пахудзеў, не змарнеў ад перажыванняў з-за маральных траўм. І на судзе сам можа нанесці такую траўму адказчыку, што той доўга не апрытомнее толькі пачуўшы суму, якую павінен выплаціць яму. (Чыноўнікі неяк блытаюць уласныя заробкі і заробак прафесіянала пяра. А памеры хабару і ганарару зусім нельга параўноўваць.)

Што застаецца рабіць журналісту? Пісаць пра жучкоў-казюрак, пра надвор'е. На тыя тэмы, дзе нікога не пакрыўдзіш. Азірніцеся навокал: жанр фельетона зусім знік у рэспубліцы. Журналісцкае расследаванне таксама недзе на мяжы знікнення. А як што расследаваць, калі для большасці ўладальнікаў інфармацыі сёння дзеючы закон СССР аб друку — фількіна грамата і пусты гук.

Таму і выходзяць стэрыльныя, бяззубыя газеты, у якіх найбольш востры матэрыял — аб парушэннях законаў... у суседняй Расіі. А пра Беларусь — цішыня, быццам законы ў нас маючыя ўладу парушаюць куды радзей.

Добрае спакойнае жыццё ва ўладных структурах на мяжы летаргічнага сну. Адпаведнае яму інфармацыйнае забеспячэнне. Чытач ужо прывык, што нічога «гарачага» афіцыйны друк не надрукуе, а неафіцыйнаму гэта не па кішэні — разораць штрафамі.

Зразумела, што журналісты таксама маюць права на памылку, але планку адказнасці для іх паднялі на такую вышыню, што нават параўнаць якую іншую прафесійную групу з імі нельга.

...Калі б за кожную недакладнасць нашы чыноўнікі выкладвалі з уласнай кішэні сотні тысяч, у якой бы квітнеючай краіне мы жылі!

● КАНТАКТЫ

# «КАНСІЛІУМ» ЛІЦЕЙШЧЫКАЎ СВЕТУ

ТАЦЦЯНА ЛАЗОЎСКАЯ, «ДВ».

**Упершыню ў Мінску адбыўся Міжнародны семінар і выстава-кірмаш «Ліцейная вытворчасць і экалогія» — «Экаліт–93».**

**Аб мэтах форуму расказвае дырэктар Беларускай асацыяцыі ліцейшчыкаў Вадзім Герасімавіч Бас.**

— Мерапрыемства прайшло пад эгідай Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН з удзелам прадстаўнікоў Міжнароднай праграмы ААН (ЮНІДО), міжнароднай арганізацыі па стандартызацыі (ІСО).

Непасрэдны ўдзел у семінары прынялі Дзяржкампрам, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Дзяржэканамплан, Беларуская політэхнічная акадэмія, Беларуская асацыяцыя ліцейшчыкаў, акцыянернае таварыства «ЮНІСПЕКТР», якое прадаставіла для яго патрэб свае «апартаменты», базу.

У семінары бралі ўдзел нашы калегі з Расіі, Украіны, Казахстана, Румыніі, Балгарыі, Чэхіі, прадстаўнікі вядомых замежных фірмаў «Генрых Вагнер Сінта», «Отта Юнкер», «Бардслей Пайпер» — ЗША, «Фуртэнбах» — Аўстрыя, «ДЗІЗА БМД» — Данія і іншыя.

Беларусь невыпадкова стала месцам сустрэчы ліцейшчыкаў свету. Наша краіна займае вядучае месца па вытворчасці ліцця на душу насельніцтва. А яна, цяпер ужо не сакрэт, — самая шкодная для навакольнага асяроддзя, здароўя людзей. Тым больш для Беларусі, дзе экалагічныя праблемы паўсталі асабліва востра пасля аварыі на Чарнобыльская АЭС.

Менавіта таму спецыялісты-ліцейшчыкі з'ехаліся на своеасаблівы «кансіліум» у Мінск, каб паразважаць, абмяняцца думкамі, выпрацаваць канцэпцыю абясшкоджвання ліцейнай вытворчасці.

Вынікі семінара прааналізуе Еўрапейская эканамічная камісія ААН. На іх аснове будуць распрацаваны мерапрыемствы, якія дапамогуць зрабіць ліцейную вытворчасць экалагічна чыстай.

**— Значыць, мэты, якія ставілі ўдзельнікі семінара, дасягнуты?**

— Галоўнае дасягненне форуму — выснова, што мы павінны думаць аб будучым нашай планеты, нашчадках, рабіць усё магчымае, каб не пакінуць ім у спадчыну пустыню. На маю думку, першыя крокі ў гэтым накірунку і зрабіў наш семінар.

● НОВЫЕ ИЗДАНИЯ

# ООН ОТКРЫТА ДЛЯ ВСЕХ

В.МЕНЬШИКОВА.

**Временное отделение Организации Объединенных Наций в Беларуси приступило к изданию ежемесячного «Бюллетеня ООН», который будет выходить при участии издательско-полиграфической компании «Эридан».**

**Первый номер «Бюллетеня ООН», распространенный в Минске на русском и английском языках, открывается словом к читателю представителя ООН в Республике Беларусь Метью Кахане. Печатаются новости, календарь Временного отделения ООН, анонсы предстоящих событий.**

**Новое издание предназначено для белорусских правительственных учреждений, общественных организаций, дипломатических миссий и международных организаций, аккредитованных в Минске.**

● МИЛОСЕРДИЕ

# ЖИЗНЬ — ДЕТЯМ

Особые денежные премии вручили на днях представители Белорусского детского фонда. Их обладателями стали многодетные семьи, люди, посвятившие жизнь детям, а также 14 одаренных ребят, оставшихся сиротами и инвалидами.

Премии имени Зинаиды Туснолобовой-Марченко — по 10 тысяч рублей «За большую любовь, нежность и уважение друг к другу» получили три многодетные семьи — Валентина и Иван Козыревы из Бреста, Галина и Вячеслав Рудевичи из Гродно и Любовь и Виктор Курс из Могилевской области. Все они воспитывают по пять и более детей. Причем не только родных, но и приемных.

Обладателями премии «Друг детей» стали минчане Игорь и Майя Крапины, которые являются художественными руководителями детского народного циркового коллектива. Такие же награды за преданность детям получили руководитель Могилевского детского туристического клуба Владимир Воробьев и воспитатель детского дома семейного типа, в котором, кстати, нашли тепло и уют 12 детей, Людмила Куликовских.

Оставшиеся по воле судьбы сиротами и инвалидами юные математики, музыканты и художники получили 14 ежемесячных стипендий по 1500 рублей, которые представители детского фонда выплатили им сразу за год вперед.

ЕКАТЕРИНА ВЫСОЦКАЯ.

*БАБУЛІНА «ЭКАНОМІКА».*

ФОТА А. КАРЖА.

● НАША ИСТОРИЯ

# МУЗЕЙ ТРЯХНУЛ СТАРИНОЙ

Вероника БЕГУН, Виктор КУКЛОВ.

**Дом-музей 1 съезда РСДРП — филиал Национального музея истории и культуры Беларуси — переживает очередную модернизацию. На этот раз преобразования в нем действительно связаны с «Модерном» — именно так называется открывшаяся здесь выставка, которая впервые за десятилетия существования легендарного домика потеснила основную экспозицию.**

В двух маленьких комнатах, где жила хозяйка дома по улице Захарьевской, 133, между прочим, не подозревавшая о том, что приютила под своей крышей участников исторического события, теперь воссоздана атмосфера того времени. Сюда вернулись с рубежа прошлого и нынешнего столетий предметы декоративно-прикладного искусства и домашняя утварь, одежда и театральные афиши. Часть выставки посвящена неизвестным произведениям Язэпа Дроздовича. Все экспонаты — из фондов Национального музея истории и культуры.

Вслед за этой, правой частью мемориала, предстанет в обновленном облике и его левое крыло, где проходил Первый съезд российских социал-демократов. Уже знакомая посетителям экспозиция, по мнению сотрудников музея, выпала из культурного контекста, времени и не является объективным свидетельством тех событий. Поэтому прежние экспонаты решено дополнить не известными пока широкой публике документами. Пожалуй, самый любопытный из них — Манифест делегатов 1 съезда РСДРП, отпечатанный в борисовской типографии БУНДа на еврейском языке. По замыслу авторов новой экспозиции, она поможет восстановить историческую справедливость и стряхнуть идеологический налет с нашего представления об известном событии в судьбе социал-демократического движения.

Благое начинание сотрудников филиала Национального музея нуждается в финансовой поддержке. Они надеются, что в республике найдутся материально обеспеченные приверженцы истории и культуры.

● СИТУАЦИЯ

# ТЯЖЕЛОЕ НАСЛЕДИЕ СОЦИАЛИЗМА,

### *или Почему СП «Анатэссэк» оказалось на грани ликвидации*

ВИКТОР ФЕДОРОВИЧ.

Карл Ромайзл приехал в Минск генеральным директором СП «Анатэссэк», а уезжал безработным. У него был опыт в бизнесе, но не было опыта борьбы за дело с плотными рядами наших чиновников. «Легче в родной Чехии воду носить в решете, — думал Карл, расторгая контракт с учредителями, — чем искать правду в этой сумасшедшей стране». А каким обнадеживающим было начало...

В конце 1990 года в Праге заключили джентльменское соглашение о создании СП датская фирма «Тэссэк А/О» и НТО Академии наук СССР (Ленинград). Будущее предприятие должно было разрабатывать, производить и продавать хроматографические колонки, приборы, оборудование, в том числе и медицинское. Иностранный участник обязался внести часть доли в уставный фонд технологической и конструкторской документацией, относящейся к «ноу-хау». Советская сторона предоставляла оборудование и производственные площади, находившиеся на балансе структурной единицы НТО АН СССР — опытно-производственного предприятия по выпуску уникальных физических приборов и оборудования в Минске. В том же 1990 году директор ОПП (ныне приборостроительный завод «Оптрон») И.К.Ростовцев направил в Мингорисполком и Совмин республики письма с просьбой принять решение о создании советско-датского СП «Анатэссэк». И горисполком, и Совмин дали «добро», а 12 января 1991 года «Анатэссэк» было зарегистрировано в Госвнешэкономсвязи под номером 2.

Предприятие, в штате которого всего 30 человек, освоило выпуск приборов для лабораторий, действующих в сферах экологии и медицины, пищевой и кормовой промышленности. Покупателями продукции СП в Беларуси стали 14 санэпидемстанций, 6 центров стандартизации и метрологии, Институт физики АН Республики Беларусь, БелНИИ почвоведения, предприятия системы водоканала и многие другие, которые заботятся о чистоте воды, воздуха, продуктов. На территории бывшего СССР приборы «Апион», «Доркус» и «Лампидус» знают от Прибалтики до Хабаровского края. Следует признать, что послужной список одного из первых в республике совместных предприятий выглядит неплохо. Более того, за два года своего существования «Анатэссэк» не совершил ни одной сделки «купля-продажа», хотя возможности для этого есть, и остается в числе тех немногих СП, которые производят конкретную продукцию. Но сегодня над предприятием завис дамоклов меч ликвидации.

Парад суверенитетов, развал Союза, десятки, если не сотни законов, инструкций и т.п. и, как следствие, СП «Анатэссэк» оказалось, по сути, вне закона. Советский участник стал иностранцем, имущество, некогда принадлежавшее ему, Беларусь объявила своим. В октябре 1992 года заведующий отделом науки и новых технологий Совета Министров Беларуси В.А.Марченко после обращения И.К.Ростовцева направил письма учредителям СП с просьбой дать согласие на включение завода «Оптрон» в их состав. Датчане не возражали, а вот российский участник отмолчался.

Нынешнему директору СП «Анатэссэк» В.Е.Стельмашку удалось убедить упрямого «иностранца» М.Л.Александрова — президента АО «Научные приборы» (бывшее НТО АН СССР) — отказаться от учредительства в пользу белорусской фирмы «Е.А.Т.» Такая комбинация потребовалась, чтобы сохранить статус предприятия. Затем заводу «Оптрон» было предложено войти в состав учредителей. И это справедливо, с чем согласны и учредители СП. Оборудование, внесенное в уставный фонд СП, принадлежит сегодня заводу. Но... В Хозяйственном суде Минской области уже находилось исковое заявление «О возврате НЕОСНОВАТЕЛЬНО приобретенного имущества» (стиль автора — прокурора Минска В.Г.Иванова, сохранен. — В.Ф.). Прокурор, ссылаясь на статьи разных законов, появившихся после рождения СП, просил обязать «Анатэссэк» возвратить «Оптрону» имущество. По сути, это просьба ликвидировать уникальное предприятие.

Допускаю, что с юридической точки зрения истец прав. Но реально ли сегодня выполнять и соблюдать тысячи всевозможных законных и подзаконных актов, если они порой (с чем соглашаются и юристы) противоречат друг другу? Вопрос, конечно, дилетантский, но его можно поставить по-другому. Что для Беларуси важнее: иметь на своей территории предприятие, выпускающее уникальную продукцию, или его ликвидация? Согласится ли правительство выделять валюту для закупки за рубежом приборов, аналогичных «Апиону», «Доркусу», «Лампидусу», если их на территории бывшего СССР никто не производит, а белорусские потребители, в основном бюджетники, покупают продукцию СП «Анатэссэк» пока за рубли?

Есть ли возможность найти, как говорят, консенсус? Есть, точнее, была. По словам В.Е.Стельмашка, «Оптрону» предлагалось стать учредителем на новых условиях. Его доля в уставном фонде и, естественно, в прибыли могла выглядеть более солидно, чем 4,46 процента — часть, внесенная в свое время советской стороной в виде оборудования. Однако директор завода И.К.Ростовцев считает участие «Оптрона» в составе учредителей «нецелесообразным». Позиция Игоря Кирилловича, кстати, члена правления СП «Анатэссэк», трудно объяснима. На заре совместного предпринимательства он писал письма в высшие инстанции, просил дать согласие на создание СП. Затем проявил активность, настаивая на вхождении «Оптрона» в состав учредителей. Теперь же — «нецелесообразно». К сожалению, в беседе с журналистом Ростовцев отказался назвать причину перемены своей позиции, попутно сделав вывод, что корреспондента наняло СП, чтобы показать, «какие мы плохие». Со своей стороны пока воздержусь от выводов. Хотя, признаюсь, было желание затронуть тему о характерных чертах друга Ходжи Насреддина.

Возникшую ситуацию я попросил прокомментировать заместителя заведующего регистрационным отделом Госвнешэкономсвязи В.Л.Романова. Владислав Леонидович владеет практически всей информацией о деятельности совместных предприятий. В данном случае он высказал свое личное мнение:

— Таких СП, как «Анатэссэк», которые занимаются только производственной деятельностью, немного. Этому предприятию не нужна финансовая помощь. Не надо только палки ставить в колеса...

Решением Хозяйственного суда Минской области иск прокуратуры удовлетворен. СП «Анатэссэк» обязано вернуть «неосновательно приобретенное имущество». Генеральный директор СП В.Е.Стельмашок намерен обратиться в вышестоящие судебные инстанции.

Сомневаюсь, что хождение по судам принесет пользу обеим сторонам. Победителей не будет. В канцелярии суда журналисту сообщили, что ситуация с «Анатэссэком» не показательная. Десятки СП уже втянуты в судебные разбирательства. Пожалуй, лучшей антирекламы для белорусского правительства, выступающего за привлечение иностранных инвесторов, придумать нельзя.

Кстати, кажется, прояснилась позиция директора «Оптрона» И.К.Ростовцева. Игорь Кириллович отправил иностранному участнику «Анатэссэка» факс с предложением ликвидировать СП и создать новое. Или все, или ничего... В нашей истории нечто подобное уже было.

